# БЮЛЕТЭНЬ

Соймавага Клюбу „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 10 | Вільня, Чацьвер 6 траўня 1926 году. | № 10


## Прамова

**пасла Тарашкевіча з Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму 28. IV. 1926 г. падчас дыскусіі над т. з. провізорыем бюджэтовым (росьпіс даходаў і прыходаў за кароткі час) на месяц май — чэрвень.**

**Маршалак:** Адчыняю паседжаньне. Голас мае п. Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** Ізноў мушу сказаць: Высокі, але пусты Сойме! Фінансавае і гаспадарчае палажэньне Польскае Рэспублікі катастрафічна. Край з неагляднай шпаркасьцю коціцца ў пропасьць. Есьць так блага, што нельга гэтага скрыць перад шырокімі масамі грамадзянства. Аднак, правячыя кругі стараюцца ніштожнымі і абманнымі фразамі ўкрыць гэтую нэндзу, гэтую страшную праўду.

**Мэршалак:** Пане пасол Тарашкевіч! Здаецца мне, што Вы цераз недагляд ужылі такіх слоў, дзеля гэтага не прызываю Вас да парадку.

**Тарашкевіч:** Гэтая палітыка правячых кругоў тлумачыцца з аднаго боку тым, што яны ня маюць адвагі сказаць праўды шырокім масам працоўных, ня маюць адвагі, бо баяцца гэнае масы, каторая ўжо даведзена да апошняе нэндзы, каторай цярпліваасьць ўжо канчаецца; баяцца яны сказаць шырокім сялянскім і работніцкім масам, што прыбліжаецца час пераломy і працоўныя масы стануць перад пытаньнем:

„або Польшча зьяўляецца колёніяй загранічнага капіталу, а працоўны народ зменіцца ў рабочае быдла капіталістычных плянтатараў, або кірунак палітыкі мусіць нарэшце узяць ў свае рукі работніцка-сялянскі ўрад, які вызваліць працоўныя масы з путаў нэндзы і вызыску і дасьць вольнасьць прыгнечаным народам. Або-або, tersium non datur. Іншае дарогі няма-ж. Аднак буржуазія не мае адвагі вявіць гэнае праўды, сьвядома ашуківае працоўныя масы, каб усыпіць іх чуткасьць, каб заламаваць іх дзейнасьць.

Другой прычынай укрываньня гэтае страшнае праўды зьяўляецца жаданьне выцягнуць ад працоўных масаў яшчэ новыя ахвяры, новыя яшчэ цяжары — гэта наступ на соцыяльныя здабычы, ведзены пад рознымі лозунгамі „канечнасьцяў дзяржаўных“. Польская буржуазія дэклямуець аб дзейным білянсе тарговым, аб добрых выніках сваіх высілкаў у кірунку паправы гаспадарчага палажэньня краю. Польская буржуазія паказвае нам табліцы са скрытна ўгрупаванымі цыфрамі і хоча ўгаварыць нас, што ўваходзім на дарогу прадукцыйнае гаспадаркі, што вывозім больш, ніж прывозім, што ў білянсе знаходзіцца вялікая надвыжка.

Гэта-ж польскі дзіцячы лепет, або звычайнае ашуства.

Ці можа такое ці іншае ўгрупаваньне лічбаў у рубрыках засланіць зіяючую пропасьц нэндзы ў краі?

Ці ўжо сяньня ня ясна кожнаму, што гэны хвалены білянс ня ёсьць праўдзівы, што ён зьяўляецца яшчэ адным доказам абядненьня краю дый толькі? У які спосаб бядняк-Польшча можа выказаць дзейны білянс тарговы, адкуль бярэцца ў Польшчы перавага вывазу над прывозам?

Справа дужа простая, тлумачыцца гэта ўсіленьнем вывазу з Польшчы сыр‘я і збожа пры адначасным паменьшаньні прывозу.

Прывоз да Польшчы паменшаў дзеля вайны мытнае з Нямеччынай, а таксама дзеля вялікіх аплатаў мытных, якія ўрад уводзіць на жаданьне польскіх капіталістаў.

Далейшай прычынай паменшаньня прывозу ёсьць агульнае абядненьне жыхарства, малая здольнасьць шырокіх масаў грамадзянства купляць што-небудзь. Проста кажучы, грамадзянства так абяднела і да такой меры страціла здольнасьць набываньня, што яе мае толькі малая частка жыхарства. Прывоз паменшаў дзеля таго, што ў краі крізыс, умярае таргоўля і промысель, што пануе нэндза. Дык адкуль-жа ўзялася перавыжка вывозу над увозам.

Гэта рабунковая гаспадарка: вываз збожа, дрэва і сыр‘я. Да якой ступені ўрад вядзе неразумную гаспадарку, як бароніць спэкуляцыю—можа доказам служыць вываз збожа.

У гэтым годзе—як ведама, ня было ўраджаю ў Канадзе і Аргентыне, якія краі побач з Расеяй зьяўляюцца галоўнымі пастаўшчыкамі збожа на сусьветныя рынкі. Расея, як Канада і Аргентына не падалі спадзяванай колькасьці збожа на рынкі, і дзеля гэтага цэна збожа на біржах паднялася. Была г. з. „добрая кан‘юктура для вывазу збожа з Польшчы. Але ў гэтым часе ўрад спаганяў налог з маемасьці і трэба адзначыць, што ад сялян і бяднейшых слаёў грамадзянства гэны налог спаганяны з цэлай суровасьцю пад націскам экзэкуціі і ліцытацыі, сфэры-ж абшарніцка капіталістычныя сабатавалі гэны налог і да сяньня яго не заплацілі і іх ня толькі не мінавалі экзэкуцыі, але ўрад прыйшоў да пераканаьня, што гэныя паны „**ня могуць заплаціць**“ і даў спакой сьцягіваньню ад іх налогу ад маемасьці. Вось гэта, як іх называе Вітас, „жаўсёдныя забракі“.

Увосені леташняга году, падчас добрай кан‘юктуры на збажовым рынку, урад спаганяў налог з маемасьці і прымушаў селяніна прадаваць збожа на налогі. Дзеля вялікае падажы збожа, цэны на яго былі вельмі нізкія. Гэнае палажэньне выкарысталі спэкулянты, выкупіўшы на вёсцы ўсё збожа. Пасьля-ж вывязлі таннае польскае збожа заграніцу, прадаючы яго з вялікім заробкам па высокіх цэнах. У выніку такое палітыкі ўраду сяньня на вёсках голад, бо-ж абрабавана селяніна з яго гадовае працы, а ў местах цэны на хлеб што раз узрастаюць.

Трэба адзначыць, што істнуе вялікая розьніца паміж цэнамі на хлеб і на муку і Польшча справаджае з-заграніцы муку, якая, ня гледзячы на кошт перавозу і мытных аплат, таньнейшая ад мукі краёвае.

Рабунковай таксама зьяўляецца палітыка лясная. Замест разумнае гаспадаркі лясной, замест пераробку лесу на тартаках і фабрыках, практыкуецца рабунковыя вырубка лясоў і за марныя грошы лес, як сыр‘е, вывозіцца заграніцу. Ужо цяпер на абшарах Заходняй Беларусі прадаюцца вучасткі лесу, якія павінны быць прададзены ў 1928 г., а на адбудову ідуць участкі ажно з 1934 г.

Калі гаворыцца аб рабунковай гаспадарцы лясной, трэ‘ ўспомніць хоць у пары словах аб гаспадарцы ў Белавежскай пушчы.

Слаўным зьяўляецца кантракт з фірмай „James Calder“, якая цалком нішчыць Белавежу, а паводле апошніх вестак адведываюць Белавежскую пушчу міністры са шведзкім і ангельскім пасламі, здаецца мне, ня дзеля паляваньня толькі, але каб сьпісаць новую ўмову, дагодную толькі для загранічных капіталістаў. Капіталісты і спэкулянты пад абслонай і са згодай ураду рабуюць Заходнюю Беларусь, вырубаючы і вывозячы Белавежскую пушчу. Капіталісты і спэкулянты зарабляюць аграмадныя працэнты, купляючы за бязцэн лес, а адначасна беларускія сяляне да сёньняшняга дня жывуць у гліняных зямлянках, дзеля таго, што ня маюць сродкаў на куплю дрэва для адбудовы зьнішчаных падчас вайны дамоў.

Палітыка ўраду прыпамінае мэтады банкрута, які сьпяшаючыся за бязцэн прадае апошняе начыньне з хаты, кіруючыся карысьцяй сёньняшнага дня, бо ня ведама, што будзе заўтра.

Гэтая ўласьне рабунковая палітыка вывозу, пры адначасным змяншэньні прывозу дае абман дзейнага тарговага білянсу. Гэта зьявішча штучнае і ўтрымацца можа на кароткі час. Вось ужо апошнія месяцы паказываюць што раз сільнейшае спаданьне. Палажэньне гэнае мусіць павялічацца што раз сільней. Аномаліяй гэтак сама ёсьць факт, што падчас узьвялічанага вывазу заграніцу запас валют у Польскім Банку што раз меншае і меншае. Ужо за месяц перад пэрыядам новага спадку злотага, выказвае загранічная прэса, што пакрыцьцё ў Польскім банку выносіць толькі 5%, а ня 30% з нечым, як гэта падае ўрад і буржуазная прэса. Талы відзім, што пры дзейным білянсе тарговым маема ўемны білянс платнічы.

Гэта яшчэ адзін доказ, што палажэньне польскае гаспадаркі катастрафічнае. Зьявішча гэтае тлумачыцца ў сфэрах капіталістычных тым, што ў гэным часе прыпадаюць тэрміны плацяжу загранічных даўгоў дзяржаўных.

Няма сумліву, што сплата ўзятых на вялікія працэнты даўгоў руйнуе скарб, але і тое ёсьць пэўным, што экспарцёры г. з. вывозячыя заграніцу капіталісты і спэкулянты, ня гледзячы на распараджэньні аб гэтым, не складаюць у Польскім Банку адтрыманых з вывазу валютаў.

Дзяржава, якая так энэргічна і няўхільна ўмее прымусіць працоўныя клясы плаціць бяз меры цяжкія налогі, зьяўляецца слабою і бязсільнаю ў стасунку да клясаў багатых.

Няўхільным вынікам паменьшаньня запасу валют у Банку Польскім, інакш кажучы, падставы, на якой апіраецца польскі злот, ёсьць спадак злотага, каторы паводле афіцыяльных даных, мае ўжо толькі пятую часьць свайго першага забесьпячэньня. У варунках, у якіх знаходзіцца капіталістычная Польшча, з палажэньня гэтага няма выхаду, яно будзе горшаць і ўжо выстаўляе свае зубы інфляцыя.

Усе надзеі буржуазна-капіталістычных кругоў абасновываліся на адтрыманьні загранічнае пазыкі. Апошнія досьледы аднак паказалі, што разьлічываць на гэта абсалютна нельга.

Тыя малыя пазыкі, якія ўдалася адтрымаць пад заставу манаполю тытунёвага і сярніковага, разам з пазыкай Діллёнаўскаю, зацягнены на такіх цяжкіхі ліхвярскіх варунках, што яны сталіся ня толькі новым цяжарам для абяднеўшага краю, але гэтак сама пераканалі, што аб далейшых пазыках думаць нельга.

Пэрспэктыва гэтая для краю, так гаспадарча ўпаўшага, як Польшча, для краю, які перайшоў нядаўна цераз пэрыяд інфляцыі, настолькі страшная, што п. Міністар Скарбу ня мае адвагі прызнацца да гэнае канечнасьці, але ў пару дзён па першым чытаньні бюджэтнага правізорыя ўносіць уставу аб урэгуляваньні абароту грашовага і ў гэтай уставе сам прапануе нішто другое, як інфлцыю, іменна друкаваньне 81 мільіонаў злотых.

Няма сумліву, што гэты ўзварот інфляцыі будзе для фінансаў Дзяржавы сьмяротным.

Беспасярэдным вынікам такога палажэньня будзе ўтрата апошняй цені незалежнасьці гаспадарчай і замена Краю ў калёнію загранічнага капіталу, у край, які будзець дастаўляць толькі сыр‘ё. П. Міністар Скарбу ня мае сьмеласьці глянуць праўдзе ў вочы і бароніцца толькі прад словам „інфляцыя“, а, як ўжо казаў, сам гэтую інфляцыю паддзержываець і сам прыходзіць з інфляцыйнымі праектамі. Трудна, бо іншага нічога зрабіць ня можа. Бо ці-ж ёсьць пры капіталістычнай гаспадарцы ў сяньняшніх польскіх варунках іншы выхад з цяперршняй сітуацыі, як інфляцыя? Бюджэту-жа з былога году замкнута з дэфіцытам 400 міліёнаў злотаў, а першыя месяцы бягучага году, так-жа выказваюць дэфіцыт. Ня прыходзіцца сумлявацца, што гэтаксама будзець і дальш, бо ўвесь цяжар дзяржаўных падаткаў ляжыць на зьбедненай ужо дарэшты працуючай клясе, а дзяржаўныя расходы ёсьць саўсім не прадуктыўныя. Львіная часьць дзяржаўных даходаў ідзець на заплату ліхвярскіх працэнтаў ад загранічных даўгоў, на войска і паліцыю. І сяньня прыйшоў Урад у Палату з жаданьнем павялічэньня яшчэ прэлімінаваных да гэтага часу даходаў на карысьць Міністэрства Вайсковых Спраў і Міністэрства Скарбу. Урад што-раз болей ламае засаду, паводле якой новыя выдаткі могуць быць робленымі ў меру таго, як на гэта ёсьць пакрыцьцё ў пазыцыях даходу. Сяньня Урад дамагаецца ад Сойму прызнаньня павялічэньня крэдытаў. А дзе ж ёсьць пакрыцьцё іх? Пакрыцця няма. Пакрыцьцё ёсьць толькі у інфляцыі. Ціж-бы Урад хацеў угаварыць у каго, што дзякуючы перанясеньню бюджэтнага году з 1-га студзена на 1-га ліпня сітуацыя фінансавая і сітуацыя бюджэтная палепшылася? Трэба спадзявацца, аднак, што даходы зменшацца primo, дзякуючы таму, што вываз збожа ў надходзячым часе ўпадзець да мінімума, secundo, з даведзенай да крайняга бядоцтва працоўнай люднасьці ніводная ўжо падатковая шруба ня выцісьнець балей даходаў, а іншых крыніцаў даходу Урад шукаць ня ўмеець і не адважываецца. І ня ўмеець заглыбіцца ў кяшэні тых, якія называюць сябе „знанымі жабракамі, а ў істоце ёсьць такімі жабракамі, якія маюць вялікія скарбы і проціў якіх трэба было-б выдаць вострую антыжабрачую ўставу. З успамінаў ужо аб падатку ад маемасьці, каторы за цану канчатковага зруйнаваньня сябе плаціла працуючая кляса, а якога не плаціла заможная кляса, сяньня нават на гэтым паседжаньні Сойму, на каторым Урад дамагаецца прызнаньня павялічаных крэдытаў, маець бы разгледжана ў апошнім чытаньні ўстава аб дапамозе для цынковага прамыслу, гэта значыць, аб падараваньні фірме Giesche на Горным Слёнску 30,000,000 належачага падатку. Прэлімінованныя праз Урад даходы маюць свае галоўныя крыніцы ў пасярэдніх падатках, г. зн. яны кладуцца ўсім цяжарам на шырокую масу найбяднейшай люднасьці ў Дзяржаве. У істоце афіцыяльна прэлімінуецца на пасярэднія падаткі каля 30% агульнай сумы даходаў. Але, разгледзеўшы старанна бюджэт, лёгка пераканацца, што далейшыя пазыцыі даходаў з гэтага самага аблажэньня толькі ўмела перагрупаваныя і ўпісаныя пад іншыя рубрыкі. Але працоўных масаў не ашукаюць гэткія штучкі і выкруты, бо гэныя масы гнуцца і ўпадаюць пад цяжарам церазмерных налогаў, крытычнасьць іх ўзрасла і ўзрастае пасьля кожнага новага урадавага праекту.

Крывава запрацованыя грошы, выдзертыя ад працоўных масаў, аддаюцца ў аграмадных сумах на войска, бо гэтага вымагае імпэрыялістычна-захватная палітыка, якой прытрымоўваецца Урад. Аграмадныя сумы ідуць на ўтрыманьне паліцыі, бо абшарніцка-буржуазны Урад вядзе барацьбу з падняволенай працоўнай клясай, з народам украінскім і беларускім, Гэная падвойная афэнзыва Ураду, вонкавая і ўнутраная, для каторай патрэба масы войска і паліцыі зьядае больш, чым палову даходаў Дзяржавы. Усе акраінныя землі, калі ня ўся Польшч, нічога не перавялічываючы, зьяўляюцца адной турмой для сялян і работнікаў, для беларускай, украінскай і літоўскай інтэлігэнцыі, працуючай над культурным адраджэньнем і грамадзкім вызваленьнем сваіх народаў.

Тайная і яўная паліцыа, як шаранча, апанавала ўвесь край, сеючы начуваны, варварскі страх і тэрор сярод жыхарства.

Бяз мала ўсё жыхарства, яго мужская палова ўнесена на гэт. зв. „listy nieprawomyślnych“ (сьпіскі западозраных), сьпіскі гэтыя вядуцца з вялізарным зужыцьцем грошаў і энэргіі, са стараньнем, годным для лепшай справы.

Ці можна гаварыць аб правапарадку і незалежных судох?

Дэфэнзыва правіць, дэфэнзыва й судзіць.

Суды зьяўляюцца мёртвай прыладай у руках дэфэнзывы. Працэс Бісьпінга паказаў усяму сьвету, асабліва-ж працоўнаму люду, што мужыка можна бяскарна замардаваць, што можна паліць бела-

